I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Люты 2014

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну

## Леніна шкада... (апытанне на вуліцах Гомеля)




стар. 4

## Толькі 0,81% па-беларуску

стар. 2

## Лідар гурта Gods Tower вырашыў паўдзельнічаць у мясцовых выбарах

стар. 4

## Юры Пунтус прызначаны галоўным трэнерам мазырскай «Славіі»

стар. 7

# Толькі 0,81% па-беларуску

***Яшчэ з 2009 года, з моманту з'яўлення ініцыятывы "Справаводства па-беларуску!" лабіравала ў парламенце змены ў Закон "У звароты грамадзян і юрыдычных асоб", паводле якіх адказ на зварот павінен давацца на мове звароту.***

І нарэшце ў сярэдзіне 2011 года гэтыя змены былі падтрыманыя, а 22 студзеня 2012 года яны ўступілі ў моц.

Каб давесці слушнасць таго, што нарматыўнае замацаванне статусу мовы спрыяе пашырэнню яе ўжывання ініцыятыва напачатку 2012 года пачала своеасаблівы эксперымент.

Быў зроблены запыт ва ўсе адміністрацыі Беларусі з прапановай даць статыстыку па мове зваротаў грамадзян да ўступлення ў моц зменаў у закон, за 2011 год.

Такі самы запыт быў зроблены і на пачатку 2013 з мэтай параўнаць, як змянілася сітуацыя з мовай зваротаў грамадзян пасля таго як іх права звяртацца па-беларуску і атрымоўваць па-беларуску адказ было замацавана.

У 2014 годзе такі зварот зноў быў зроблены, каб даведацца, колькі зваротаў па-беларуску было зроблена ў 2013 годзе.

Такім чынам была сабраная статыстычная інфармацыя па мове зваротаў у выканаўчыя камітэты Беларусі за 2011, 2012 і 2013 гады. Нажаль, як у 2012, так і ў 2013 і 2014 годзе далёка не ўсе адміністрацыі падалі такую інфармацыю, спасылаючыся альбо на адсутнасць такой статыстыкі, альбо на адсутнасць абавязку такую статыстыку прадастаўляць, але атрыманыя дадзеныя добра вымалёўваюць агульную карціну і тэндэнцыі.

Так была атрымана інфармацыя аб тым, што ў адміністрацыі, якія далі статыстыку, ў 2011 годзе было пададзена 13007 зваротаў, з іх па-беларуску было пададзена толькі 70 зваротаў ці 0,54% ад агульнай колькасці.

Адміністрацыі, якія далі статыстыку па дадзеным за 2012 год паведамілі, што было пададзена 10310 звароты, а з іх па-беларуску было пададзена толькі 57 зваротаў ці 0,55% ад агульнай колькасці. Напрыканцы адміністрацыі, якія далі статыстыку па дадзеным за 2013 год паведамілі, што было пададзена 8370 зваротаў, а з іх па-беларуску было пададзена толькі 68 зваротаў ці 0,81% ад агульнай колькасці.

З гэтых дадзеных вымалёўваецца карціна, што нарматыўнае замацаванне статусу беларускай мовы ніяк не ўплывае на яе ўжыванне, прынамсі пры паданні зваротаў – у 2011 годзе 0,54%, у 2012 годзе 0,55%.

Між тым у 2013 годзе беларускамоўных зваротаў было хоць і не значная колькасць у цэлым - толькі 0,81% ад агульнай колькасці зваротаў, але ў параўнанні з 2011 і 2012 годам іх колькасць у працэнтных суадносінах павялічылася амаль у паўтары разы.

Тым больш, калі адкінуць адміністрацыі вялікіх гарадоў, то можна атрымаць крыху іншыя лічбы. Так без уліку адміністрацый вялікіх гарадоў у 2011 годзе было пададзена 4508 зваротаў, з іх 60 па-беларуску, ці 1,05% ад агульнай колькасці.

У 2012 годзе без уліку адміністрацый вялікіх гарадоў было пададзена 2815 зваротаў, з іх па-беларуску было пададзена 40 зваротаў, ці 1,42%, а ў 2013 годзе было пададзена 2918 зваротаў, з іх 44 па-беларуску, ці 1,51% ад агульнай колькасці.

Напрыклад у Расонскім раёне ў 2013 годзе было ўжо 11,63% зваротаў па-беларуску, у Маларыцкім - 3,48%, у Петрыкаўскім - 3,18% зваротаў па-беларуску.

З аднаго боку можна казаць, што рост неістотны і працэнт беларускамоўных зваротаў наогул мізэрны, але з іншага боку трэба улічваць. што пазітыўная дынаміка павелічэння беларускамоўных зваротаў працягваецца, асабліва ў рэгіёнах. Да таго ж, умовы для беларускамоўнага справаводства, акрамя справаводства ў межах закона "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" зусім нарматыўна не забяспечаны.

Таму неабходна канстатаваць, што норма закона "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб", паводле якой адказ на пісьмовы зварот павінен давацца на мове звароту спрыяе пашырэнню беларускамоўнага справаводства і наогул пашырэнню ўжывання беларускай мовы ў Беларусі.

Але з гэтага вынікае, што падобная норма жыццёва набходна для развіцця беларускай мовы і ў іншых нарматыўных прававых актах, у першую чаргу ў законе "Аб мовах". Толькі тады можна будзе казаць, што ў Беларусі сапраўды забяспечана канстытуцыйнае дзвюхмоўе, а ў грамадзян ёсць рэальная магчымасць выкарыстоўваць у жыцці на роўных умовах беларускую або рускую мову, якія на сёння з'яўляюцца дзяржаўнымі.

*Ігар Случак*

# Ігар Случак удала прайшоў першы этап выбарчай кампаніі

***Каардынатар грамадскай кампаніі "Справаводства па-беларуску" Ігар Случак удала прайшоў першы этап выбарчай кампаніі: сабраў патрэбную колькасць подпісаў за вылучэнне і падаў дакументы на рэгістрацыю кандыдатам у дэпутаты. Ігар спрабуе пазмагацца за мандаты Гомельскага гарадскога і абласнога саветаў.***

Паводле Ігара Случака, актыўнасць удзелу ў выбарах у Гомелі значна вышэйшая, чым у сярэднім па Беларусі.

- Ёсць 7 акругаў – 7 месцаў у абласны савет. Туды падало заявы 27 чалавек. У гарадскі савет на 40 месцаў падало заявы 109 чалавек. У сярэднім у гарадскі савет каля 3 чалавек, у абласны савет, калі я не памыляюся, каля 4 чалавек атрымлівае цца. У прынцыпе, даволі шмат, улічваючы тое, што сярэдні конкурс па Беларусі – 1,06.

Ігар Случак таксама паведаміў, што вынікі рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты ў Гомелі павінны стаць вядомымі 20 лютага.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*

# Лідар гурта Gods Tower вырашыў паўдзельнічаць у мясцовых выбарах

***Лэслі Найф стаў даверанай асобай кандыдата ў дэпутаты гомельскага аблсавета.***

Фронтмэн беларускай метал-легенды Gods Tower Лэслі Найф стаў даверанай асобай кандыдата ў дэпутаты Гомельскага абласнога савета Ігара Случака."Для мяне гэта, хутчэй, сімвалічны жэст, — тлумачыць рашэнне музыка. — Бо насамрэч я не планую браць удзел у кампаніі. Пакуль я не бачу сэнсу займацца палітыкай у гэтай краіне. Гэта ні да чаго не вядзе. Зыходзячы з таго, што я вельмі паважаю гэтага чалавека, я пагадзіўся аказацца ў групе яго падтрымкі. Для мяне гэта гонар". Нягледзячы на тое, што невялікі досвед палітычнай дзейнасці музыка мае, ён лічыць сябе, хутчэй, "маёрам канапавых войскаў". І ўвогуле выступае за байкот выбараў."У выніку нам скажуць нейкія неверагодныя лічбы і што мы прайгралі. Проста няма ў гэтым сэнсу. Ёсць шмат іншых рэчаў, на якія можна выдаткаваць сваю энергію". Нагадаем, выбары ў мясцовыя саветы пройдуць у Беларусі 23 сакавіка.




*Ілля Маліноўскі, euroradio.fm*

# Ігар Случак: Моладзь павінна набірацца досведу ў выбарчым змаганні

***Каардынатар грамадзянскай кампаніі "Справаводства па беларуску" Ігар Случак, які мае 29 гадоў, заклікае моладзь удзельнічаць у выбарах. "Усё роўна прыйдзе час, калі ў Беларусі будуць праводзіцца сумленныя, празрыстыя выбары, і моладзь павінна ўжо цяпер набірацца досведу выбарчай барацьбы", - лічыць актывіст.***

*Ігар Случак:*

- Гэтая мая мясцовая кампанія - не толькі для папулярызацыі беларускай мовы, не толькі для іншых задач, але яшчэ таксама паэксперыментаваць для будучых выбарчых кампаній, адпрацаваць выбарчыя тэхналогіі, бо калі-небудзь і ў Беларусі выбары стануць сапраўднымі.

Ігар Случак спрабуе зарэгістравацца кандыдатам у дэпутаты шляхам збору подпісаў па Беларускай выбарчай акрузе № 24 у Гомельскі гарадскі савет дэпутатаў і па Студэнцкай выбарчай акрузе №15 у Гомельскі абласны савет. На мінулых парламенцкіх выбарах ён таксама змагаўся за дэпутацкі мандат.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*

Дачушка, ты зьвязалася з кепскаю кампаніяй?
— Не, мама. Я яе заснавала!

# Леніна шкада... (апытанне на вуліцах Гомеля)

***Як у Беларусі паставіліся да ленінападу ва Украіне? Радыё Рацыя распытала пра гэта на вуліцах Гомеля.***

Карэспандэнт: Ва Украіне руйнуюць помнікі Леніну. Як вы да гэтага ставіцеся?

*Маладая дзяўчына:*

- Нармальна, мы павінныя ведаць сваіх правадыроў...

*Карэспандэнт:* Руйнуюць – то бок зносяць, прыбіраюць.

*Тая ж маладая дзяўчына:*

- Я лічу, што хаця б адзін мусяць пакінуць. Бо калі не пакінуць, то гэта неяк непавага лічыцца.

*Карэспандэнт:* А што зрабіў Ленін такога, за што яго варта паважаць?

*Тая ж маладая дзяўчына:*

- Я не ведаю: у гісторыі я не вельмі. Але ведаю, што Ленін быў добрым чалавекам, шмат добрага для Беларусі зрабіў тады. Пры ім, калі не было такога... як бы быў пастаянны заробак...

*Мужчына:*

- Гэта вандалізм. Я жыву ў Нямеччыне і кажу, што ў любой краіне свеце за гэта садзяць у турму.

*Карэспандэнт:* Але ў Нямеччыне няма помнікаў Гітлеру...

*Мужчына:*

- Якая розніца...

*Пенсіянерка на лаве каля помніка Леніну:*

- Я супраць Леніна. І б і гэты знесла. Гэта балван, перад якім мы ўкленчваем. А ён гэтага не заслугоўвае. Але толькі, каб гэта нашае кіраўніцтва зрабіла. Каб не было ніякіх ні мітынгаў, каб было спакойна. Вось сюды б я паставіла Мікалая II, я перад ім укленчвала, святы чалавек...




*Жанчына з дзіцём, агрэсіўна:*

- Нічога не ведаю.

*Малады чалавек:*

- Скрайне негатыўна стаўлюся да руйнавання помнікаў. Гэта памяць усяго народу.

Карэспандэнт: А якая памяць? Што зрабіў такога Ленін?

*Малады чалавек:*

- Ну, сам Ленін... Не ведаю. Ну, я лічу, што катэгарычнае такое... Ну, нельга так узяць і адрубіць гісторыю ўсяго народу ад саміх людзей.

*Жанчына:*

- Я выхоўвалася на Леніне, дык у мяне нармальна стаўленне да яго. Піянер, камсамол – усё гэта мы праходзілі. Але сыходзячы з таго, да чаго мы прыйшлі пасля Леніна, да чаго прыйшла нашая дзяржава, то, канешне, гэта не ёсць добра.

*Хіпстэр:*

- Мне падаецца там такое бязмежжа і анархія, што помнікі Леніну – гэта не самае галоўнае. Але Ленін – гэта палітычны дзеяч сусветнага маштабу. І яго можна назваць стваральнікам СССР.

Грамадскія актывісты наадварот лічаць, што помнікі Леніну варта руйнаваць.

*Ігар Случак:*

- Улічваючы колькі дрэннага зрабілі Ленін і іншыя камуністычныя дзеячы для Беларусі, Украіны і іншых постсавецкіх краін, то можна зразумець абурэнне людзей ва Украіне. Тым болей, помнікаў Леніну вельмі шмат і яны аніякай культурнай каштоўнасці не ўяўляюць.

*Яўген Сувораў:*

- Наконт зносу помнікаў: вы захоўваеце фотаздымкі сваіх былых каханкаў на бачным месцы?...Вось і я думаю, што ніхто так не робіць. Таму і Ленін няхай стаіць дзенебудзь на задворку. Для чаго ён стаіць у цэнтры горада на самым бачным месцы? Таму трэба знасіць, трэба.

Уладзімір Ленін быў адным з арганізатараў чырвонага тэрору. Ягоныя ўказанні прадпісвалі распачаць расстрэлы, ізаляваць нядобранадзейных у канцлагерах і правесці іншыя надзвычайныя меры. Таксама Леніна лічаць ідэолагам галадамору на тэрыторыях, якія кантраляваліся бальшавікамі. У 1921-1922 гадах ахвярамі голаду стала каля 5 мільёнаў чалавек.

*Юлія Сівец, Радыё Рацыя*

# У Гомелі па падазрэнні ў карупцыі затрымалі суддзю і яшчэ некалькі асобаў

***КДБ зрабіў шэраг арыштаў, звязаных з карупцыйнай дзейнасцю ў судзейскім корпусе краіны. Скандал абяцае быць грандыёзным.***

Галоўная постаць сярод арыштаваных — намеснік старшыні суда Савецкага раёна г. Гомеля Юрый Жораў. Гэтая фігура добра вядомая ў юрыдычных колах не толькі сама па сабе, але і дзякуючы сваёй маці — Маргарыце Жоравай. Яна раней не толькі была намеснікам начальніка галоўнага ўпраўлення юстыцыі Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта, але і чатыры гады з'яўлялася намеснікам старшыні пастаяннай камісіі савета рэспублікі нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве.

Гэтая жанчына, хоць і на пенсіі, але да гэтага часу вельмі ўплывовая. Прычым не толькі ў Гомельскай вобласці, але і ў рэспубліканскіх маштабах. Не выключана, што менавіта мама сыграла ключавую ролю ў прасоўванні сына па судовай лесвіцы. Бо ён досыць хутка прайшоў шлях ад простага суддзі да намесніка старшыні суда Савецкага раёна Гомеля.

Што цікава, суддзю і яго асяроддзе распрацоўвала не Гомельскае ўпраўленне КДБ, а цэнтральны апарат, паколькі занадта ўжо сур'ёзныя фігуры там засвяціліся.

Аператыўная справа супраць цэлай групы, якая, па папярэдняй інфармацыі, праз складаную схему займалася вымагальніцтвам хабараў, вялі цэлы год, перш чым наважыліся пайсці на арышты. Арышты пачаліся яшчэ 4 лютага, але да гэтага часу па справе няма афіцыйнай інфармацыі. Аднак факт арышту Ю.Жорава пацвердзілі і ў самім судзе Савецкага раёна г. Гомеля, а таксама ў Гомельскім абласным судзе. Аднак яны ніякай інфармацыі таксама не даюць, спасылаючыся на тое, што ідзе следства. Матэрыялы ўжо перададзеныя ў Следчы камітэт.

НЕ ПАЛІСЯ!

Акрамя самога Юрыя Жорава на дадзены момант арыштаваныя яшчэ чатыры чалавекі. Сярод іх вядомы адвакат, які таксама з'яўляецца сынам аднаго вядомага суддзі.

Але гэта, кажуць ў Следчым камітэце, толькі пачатак буйной справы, бо цяпер КДБ вядзе аператыўную распрацоўку яшчэ некалькіх буйных фігур, звязаных як з судзейскім корпусам, так і з праваахоўнымі структурамі.

На дадзены момант яшчэ не вядома, якія абвінавачванні прад'яўленыя затрыманым.

*Георгій Дань, ej.by*

# Мамы-дакрэтніцы займаліся крадзяжамі

***У Гомелі дзве мамы-дакрэтніцы папаліся на крадзяжах.***

У Гомелі дзве мамы-дакрэтніцы папаліся на крадзяжах.

Два не звязаных паміж сабой факты зарэгістраваныя на працягу сутак 8 лютага ў Чыгуначным і Цэнтральным раёнах Гомеля.

Як паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, у першым выпадку ў міліцыю звярнуўся жыхар мікрараёна Сяльмаш.

Ён паведаміў, што пасля сумеснага распіцця спіртнога з невядомай жанчынай у сябе дома выявіў знікненне грошай. Знікла 299 даляраў, 1000 расійскіх рублёў і 100 украінскіх грыўняў.

Высветлена, што іх крадзеж здзейсніла госця пацярпелага — 34-гадовая гамяльчанка, якая знаходзіцца ў дакрэтным адпачынку. Частка выкрадзенага ў яе канфіскавана.

У тыя ж суткі адбылася крадзеж у краме па вул.Мазурава. Зламыснікі падабралі ключ да адной з ячэек для рэчаў і выцягнулі адтуль пакет, у якім знаходзіліся прадукты харчавання і джынсы. Неўзабаве міліцыянты затрымалі падазраваных — двух прадстаўніц слабага полу.

Малодшая з іх — 30-гадовая гамяльчанка, знаходзіцца ў дакрэтным адпачынку па догляду за дзіцем. Праўда, летась была судзімая за ўхіленне ад утрымання дзяцей.

Яе таварышцы 44 гады. Абедзве затрыманыя.

*odsgomel.org*

Насамрэч Бог даў Маісею адзін запавет: «„Не" зь дзеясловамі пішацца асобна». Астатнія запаветы Маісей прыдумаў сам, спрабуючы завучыць гэты.

# Пад Гомелем грузавік з гарэлкай сутыкнуўся з рэйсавым «Ікарусам»

***У прыгарадзе Гомеля рэйсавы аўтобус « Ікарус» сутыкнуўся з фурай, гружаны гарэлкай: 5 пасажыраў аўтобуса звярнуліся па медыцынскую дапамогу, паведамілі ў ДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама. У выніку ДТЗ частка скрынь з алкаголем выпала на дарогу.***

Паводле папярэдняй інфармацыі, рэйсавы аўтобус « Ікарус» (маршрутам Гомель - Чарацянка) не саступіў дарогу фуры з паўпрычэпам, якая ішла па галоўнай дарозе. У выніку ДТЗ пецярым пасажырам аўтобуса спатрэбілася медыцынская дапамога. У шпіталізацыі яны не мелі патрэбы. Ад сутыкнення брызентавае покрыва паўпрычэпа разарвалася, і частка скрынь з гарэлкай выпала на дарогу. Памер стратаў, прычыненых перавозчыку, высвятляецца. По факце ДТЗ ідзе праверка.

*sb.by*

# На пераходзе ў Гомелі жанчыну збілі спачатку «Жыгулі», затым Audi: пешаход памерла

***17 лютага ў 6.15 у Гомелі 66-гадовы кіроўца «Жыгулёў» здзейсніў наезд на 65-гадовую жанчыну, якая пераходзіла праезную частку па пешаходным пераходзе, — паведамілі ў ДАІ МУС.***

Пасля ўдару, як тлумачылі відавочцы ДТЗ, пешахода адкінула на сустрэчную паласу, дзе на яе здзейсніў наезд 43-гадовы кіроўца Audi. У выніку пешаход атрымала цяжкія траўмы і была шпіталізаваная, у 8.35 яна памерла ў бальніцы.

*odsgomel.org*

# У Мазыры кіроўца трамвая памерла падчас рэйсу

Як паведаміла БелаПАН афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крыванагава, гэта адбылося 3 лютага. Жанчына -кіроўца кіравала трамваем, які ехаў з горада на нафтаперапрацоўчы завод. Трамвай спыніўся на прамежкавым кольцы, недалёка ад вёскі Пянькі Мазырскага раёна. У гэты момант кіроўца раптоўна памерла. У салоне быў толькі кандуктар, пасажыраў не было.

Жанчыне заставалася да пенсіі некалькі месяцаў.

Мазырскі РАСК праводзіць праверку па факце смерці. Прычыну смерці вызначыць экспертыза.

*БелаПАН*




# Невядомыя паспрабавалі абакрасці банк у Мазырскім раёне

***Мазырскім раённым аддзелам Следчага камітэта Беларусі распачата крымінальная справа па факце замаху на крадзеж маёмасці аддзялення ААТ «ААБ Беларусбанк», размешчанага ў вёсцы Махнавічы Мазырскага раёна.***

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, ноччу 26 лютага ў праваахоўныя органы паступіла паведамленне аб незаконным пранікненні ў памяшканне банка. Супрацоўнікі дэпартамента аховы МУС, якія прыехалі на месца выкліку, не знайшлі злачынцу ні ў будынку, ні ў яго наваколлях.

Следча-аператыўная група пры правядзенні агляду месца здарэння зафіксавала сляды пашкоджання замкоў уваходных дзвярэй, металічнай рашоткі, некалькіх дзвярэй унутры памяшкання і сейфа. Канфіскаваныя магчымыя прылады злачынства, прызначана правядзенне дактыласкапічнай, біялагічнай, крыміналістычнай экспертыз.

Праводзяцца аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па ўстанаўленні асобы, якая ўчыніла гэтае злачынства.

*БелаПАН*

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# Юры Пунтус прызначаны галоўным трэнерам мазырскай «Славіі»

***Юры Пунтус прыбыў у Мазыр, дзе афіцыйна аформіў працоўныя адносіны з ФК «Славія».***

Таксама з ім прыехаў і адзін з яго памочнікаў – Анатоль Вайцэховіч. Другім памочнікам трэнера прызначаны мазырскі спецыяліст Міхаіл Марціновіч.

Дырэктар клуба Андрэй Васілец, прадстаўляючы новага галоўнага трэнера, заначыў: «Зараз, пачынаючы новы перыяд працы, мы хочам не проста сабраць каманду на кароткі перыяд, а імкнемся да дасягнення сур'ёзнага выніку на ўсіх кірунках працы».

Юры Пунтус падтрымаў словы дырэктара:

«Вядома, мы будзем звяртаць вялікую ўвагу на развіццё дзіцячага і юнацкага футбола. Мы хочам шчыльна працаваць з мясцовымі хлопцамі. Аднак варта разумець, што ім неабходна на кагосьці раўняцца. І асноўная каманда – гэта менавіта тая паходня, якая цягне за сабой маладое пакаленне. Калі няма гэтай паходні, тады не будзе і дынамічнага развіцця футбола ў горадзе».

Першы збор каманды адбудзецца 5 лютага, калі ў стан клуба прыбудзе шэраг футбалістаў. Затым гульцы пачнуць паўнавартасныя трэніроўкі, пасля чаго накіруюцца ў Брэст для ўдзелу ў таварыскім турніры, які будзе праходзіць з 13 па 15 лютага.

*Паводле fc-slavia.by*






# Знайшлі труп немаўляці ў тахце: 18-гадовая дзяўчына кажа, што не нараджала

***Выпадак адбыўся ў Чачэрскім раёне (Гомельская вобласць).***

Дзяўчына паступіла ў раённую бальніцу з пасляродаввымі сімптомамі, але казала, што не нараджала і ніякага дзіцяці няма.

Медыкі паведамілі ў міліцыю, тыя правялі вобшук па месцы жыхарства, і ўнутры тахты знайшлі труп нованароджанай дзяўчынкі.

Падазраваная не была замужам, жыла з бацькамі, цяжарнасць хавала.

*БелаПАН*






M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Люты 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA